**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

# ПАТАПКА І ЯГО СЯБРЫ



Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2013

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)
Б99

Мастак *С.А. Волкаў*

**Бензярук, Р.М.**

Б99 Патапка і яго сябры : казкі : для дашк. і мал. шк. узросту / Р.М. Бензярук ; маст. С.А. Волкаў. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2013. – 72 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0635-2.

Кніга знаёміць з цікавымі з'явамі прыроды і незвычайнымі прыгодамі зверанят. Самым дапытлівым адрасуюцца казкі-загадкі, а дзіцячым лялечным тэатрам — п'еса-казка «На паляне, каля ёлкі...».

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-11-0635-2**



## ДАВАЙЦЕ ЗНАЁМІЦЦА!

Аднойчы ў дзіцячай бібліятэцы я сустрэў вяснушчатага хлопчыка з прыгожай кнігай.



Я спытаў у малога:

— Што ты чытаеш?

— Пра палёты на Марс! — горда прамовіў маленькі чытач.

— Цікава. Вельмі цікава! — усміхнуўся я. — А ці часта ты бываеш у лесе?

— Не часта, — прызнаўся хлопчык. — Толькі тады, калі выязджаю з мамай і татам у грыбы ці ягады.

— То, можа, ты бываў на Арэхавай вуліцы? Там, у палацы-цераме, жыве мядзведзік Патапка з мамай і дзядулем Пата-

пам Іванавічам. Побач хаткі зайчыка Цімошкі, вожыка Калючкі, ліскі Лізы, настаўніцы Барбары Баброўны. Да іх прыбягаюць мядзведзік Міхалік ды ваўчок Вова. Звераняты разам вучацца, бавяць вольны час і нават спрачаюцца. Як усе малыя.

Бачу, зацікавіўся хлопчык.

— У мядзведзіка Патапкі шмат сяброў, але ён хоча, каб і ты таксама пасябраваў з ім.

— А адкуль ён мяне ведае?

— Мядзведзік любіць чытаць, асабліва вясёлыя кніжкі пра дзетак. Вось і ты вазьмі кнігу пра Патапку і яго сяброў, паслухай казкі, вершы, лічылкі пра зверанят. Лясныя жыхары жадаюць табе расці здаровым, разумным, цікаўным, любіць жывую прыроду!






## ЯК ПРЫДУМАЛІ ГУЛЬНЮ

Ну і задзіра гэты мядзведзік Міхалік! Нікога не прапусціць, кожнага зачэпіць. Асабліва дастаецца Патапку. Толькі выйшаў ён сёння з дому, а Міхалік тут як тут:

Патап, Патап,  
Абег сорак хат,  
Сорак хат, сем рэчак,  
Стрыг авечак!

Крыўдна стала Патапку.

— Не Патап я пакуль, а Патапка! — запярэчыў ён.

А ў Міхаліка новая дражнілка:

Патапка, Патапка,
На камізэльцы латка,
На штоніках латка,
А нос — як аладка.

Прыбег Патапка дамоў, хутчэй да люстэрка: нос як нос!

— Што з табою, унучак? — спытаў Патап Іванавіч.

— Дзеду, чаму мне такое непрыгожае імя далі?

— У цябе цудоўнае імя! — запэўніў дзядуля.

Мядзведзік захныкаў:

— Патап, Патап, абег сорак хат…

— … сорак хат, сем рэчак, стрыг авечак! — закончыў дзядуля.

— А ты адкуль ведаеш?

— І мяне ў дзяцінстве гэтак дражнілі, — адказаў Патап Іванавіч. — Але я зрабіў для сябе адкрыццё.

— Якое, дзеду?

— Зараз сам убачыш!..

Дзядуля дастаў аловак і на паперы вывеў вялікімі літарамі слова «ПАТАП».

— Чытай!

Мядзведзік прачытаў.

— А зараз з другога боку чытай!

Мядзведзік прачытаў і ўсклікнуў:

— Ой, як цікава, дзеду! І тут атрымліваецца «ПАТАП».

— Вось ты і скажы пра гэта звярам, яны тады дражніцца перастануць, — параіў дзядуля.

Выбег Патапка з дому і закрычаў штосілы:

— Якое ў мяне цудоўнае імя!

— Ведаем якое — Патап! — скрывіўся Міхалік. — Патап, Патап, абег сорак хат…

— Не, вы толькі паглядзіце!

Патапка напісаў кійком на сцяжынцы сваё імя. Звяры абступілі мядзведзіка.

— Чытайце! Вы — адсюль, а вы — з гэтага боку. Бачыце, аднолькава атрымліваецца!

— І ў мяне аднолькава атрымліваецца, — узрадавалася вавёрка. — Бо імя маё — Ада.

— А ў мяне хіба горшае! — выткнуўся Міхалік. — Чытайце!

— Тут і праўда «МІХАЛІК» выходзіць, а наадварот — нейкі «КІЛАХІМ». Што за слова? — здзівілася ліса Ліза.

Міхалік на хвіліну сумеўся, але знайшоўся, што адказаць:

— Гэта па-англійску «Міхалік».

— Дзі-іўна!

Зайчык Цімошка таксама напісаў сваё імя.

— А што такое «АКШОМІЦ»? — запыталася зноў ліса.

— Гэта па-французску «Цімошка».

— Я думала, што ўсе звяры тутэйшыя, — усміхнулася ліса Ліза. — А ў нас, аказваецца, ёсць іншаземцы.

Мядзведзік Міхалік падышоў да янота і нечакана зарагатаў:

— Як жывеш, Тоня!

— Я не Тоня, я — Антошка.

— А ты сам пачытай: гэтак «ЯНОТ», а з другога боку «ТОНЯ». Выходзіць, янот Тоня.

— Я — Антошка, — заўпарціўся янот.

— «Патап» чытаецца аднолькава, «Ада» — таксама, — заўважыў зайчык Цімошка. — А ў нас не выходзіць. Значыць, і хітрыць не трэба.

— Я таксама прыдумала слова, якое чытаецца аднолькава з аднаго і другога боку, — пахвалілася бабрыха Барбара.

— Якое?

— Шалаш!

— Давайце ўсе прыдумваць такія словы, — прапанаваў Патапка. — У нас атрымаецца новая гульня.

Звераняты дружна згадзіліся.

Першай падняла лапу ліса Ліза:

— Заказ.

— Добра, — пахваліў Патапка.

— І я прыдумаў, — падхапіўся Міхалік. — Зараз.

Прымоўклі звяры: далей ніяк не ўдавалася падабраць патрэбнае слова.

Раптам зверху пачуўся голас:

— Боб! Вельмі люблю боб!

Зверанята ўзнялі галовы: на яліне сядзела варона.

— Я таксама хачу з вамі гуляць, — сказала яна. — Добрую гульню прыдумалі.

— Тады злятай уніз! — запрасіў Патапка. — Цікавей будзе…

Загуляліся звяры, не заўважылі, як сонца зайшло і ноч апусцілася на зямлю.

Увечары Патапка падзякаваў дзядулю.

— За што, унучак? — здзівіўся Патап Іванавіч.

— За новую цікавую гульню. Яна ўсім зверанятам спадабалася.

— А гуляць у хованкі вы любіце? — спытаў Патап Іванавіч.

— Не толькі любім, але і гуляем…

— А ведаеце лічылку пра барсука?

## БАР ДЛЯ БАРСУКА

Збудавалі барсуку
Бар шыкоўны на суку.
Лез уранку барсук
На дубовы моцны сук,
Дзе чакаў яго суп —
Трохі мяса, трохі круп,

Звараныя на вадзе.
Вам хавацца. Ён — вядзе!

Паслухаў дзедаву лічылку Патапка і адказаў радасна:

— Ведаю! Каму выпадзе слова «вядзе», той заплюшчвае вочы і жмурыцца. Астатнія бягуць хавацца…

— І на арэлях вы любіце гушкацца? — дапытваўся Патап Іванавіч.

— Яшчэ як!

— Дык у мяне казка пра гэта ёсць. Слухай і засынай!

## АРЭЛІ

На высокія арэлі,
Што павесілі ў бары,
Наляцелі
І паселі
Мушкі,
Птушкі
Ды звяры.
Але ўсім, хто думаў сесці,
Не хапіла ўсё-ткі месца.

— Будзем толькі па чарзе! —
Гэта Воўк улік вядзе.
Непаседа, хітры Зай
Абскакаць хацеў чаргу.
— Зайка, месца сваё знай! —
Воўк націснуў на нагу.
— Ой, балюча! Не магу!..

Зая хоць і не хацеў,
Стаць прымусілі ў «хвасце».

Весялосць,
Кругом гамонка.
Бачыць Лось:
Сіваваронка,
Ліс, Сініца,
Страказа,
Дрозд, Куніца
Ды Каза
Раскачалі так арэлі
(А яны адно — рыпяць),
Што здавалася:
Хацелі
Аж да Месяца злятаць.



Напалохалі Сароку:
— Э, не трэба так высока!
Заляціце за аблокі,
А ці вернецеся зноў
На Зямлю сваю,
Дамоў?..

Колькі ўцехі,
Колькі смеху —
Ажно будзіць
Пушчу рэха!

Не ў пару,
Каб паглядзець,
З гушчару
Прыйшоў Мядзведзь.
І, назола,
Як раўне:
— Хто дазволіў
Без мяне?!

І хаця засопся трошкі,
На арэлі лез-такі.
Эх, не вытрымалі дошкі —
І стары… пабіў бакі!

Ды ачухаўся Мядзведзь
І давай пяром рыпець:
«Я — адзіны Гаспадар
І абшараў Уладар —
Для звяроў і зверанят,
Для жучкоў і птушанят

Свой падпісваю загад:
Ад вясны і да вясны
Каля елкі і сасны,
Каля дуба і асіны,
На бярозе і рабіне,
Каб ніколі не пасмелі
Ладзіць новыя арэлі!!!»

І паверце:
З той пары
Больш не гушкалі ў бары
Ані птушкі,
Ні звяры.

Пры апошніх словах Патапка падняў з падушкі галаву і спытаў:

— Дзеду, а чаму мядзведзь тут такі злосны?

— Ёсць у мяне казка, дзе мядзведзь добры, — адказаў на гэта Патап Іванавіч.

## КАГО ЛЮБЯЦЬ У ЛЕСЕ?

Дружныя прайшлі дажджы
Ды грыбоў насеялі.
Значыць, доўга не ляжы.
Не ляжыць,
А ў лес бяжыць
Хлопчык непаседлівы.

У Алеся кош — ого,
Сплецены для волата!



Як напоўнілі яго
Бабкі, баравікі,
Рыжыкі і маслякі,
Дык цягні хоць волакам.

— Э, няпраўда! — на сасне
Грак азваўся. — Верыш?
Бачыў сам, як на спіне
Кошык нёс Алесік ледзь,
Ды памог яму Мядзведзь
І прынёс пад дзверы.

— Слаўны хлопчык! — падтрымаў
Шэры Зайка, шустры. —
Качаны калі зразаў,

Дык Алесь дапамагаў:
Адносіў капусту.

Адазвалася Сава
Голасна і борздка:
— Я скажу, як двойчы два:
Хоць і спрытны наш Алесь,
Ды ніколі ён не лез
І не бурыў гнёздаў.

Чуў ад мудрага Зубра:
— Любяць тых у лесе,
Хто жадае ўсім дабра,
Хто прыходзіць з песняй!..

… Словам, птушкі і звяры
Расказалі нам, сябры,
Казку пра Алеся.

Нават гэтая дзедава казка не закалыхала Патапку. Ён думаў над пачутым.

— Дзеду, а хто той Мядзведзь, што дапамог Алесіку дамоў грыбы прынесці? Я ведаю яго?

— Ведаеш, — усміхнуўся Патап Іванавіч. — Гэта ж я!

— Вырасту і я буду дапамагаць усім, — паабяцаў Патапка.

— Правільна! — пахваліў унука Патап Іванавіч. — Тады ў лесе ўсе будуць любіць цябе…

— А чаму людзі збіраюць грыбы, а мы не?

— Бо яны грыбны суп вараць. Пра гэта нават свая казачка ёсць.



## КАЗКА ПРА ПАРАСКУ

— Суп паем, — сказаў Тараска, —
Калі мне раскажаш казку.
— Хочаш казку?
Калі ласка,
Пра старанную Параску,
Што грыбоў прынесла вязку.
Як у печы іх сушыла,
Потым суп-булён зварыла
Ды ўсіх чыста накарміла:
Гусаку і мушкам
Дасталася юшка,

Карова з авечкай
Елі каля печкі,
А курачка Рабка
За столікам з бабкай.
Нават шэры коцік
Памачыў свой роцік,
А сабачка Лыска
Пааблізваў міскі.
Бабіны і дзедавы —
Усе паабедалі!..
— Я таксама бабін, дзедаў,
А яшчэ не паабедаў, —
І за стол прысеў Тараска. —
Суп нясіце, калі ласка!..
... Бабка радуецца: казка
Памагла карміць Тараску.

— Не, мне не трэба расказваць казкі, каб паеў, — не пагадзіўся Патапка. — Як пагуляю з сябрамі, прыбягу дадому і адразу з парога прашу маму: «Дай паесці!»

— Што праўда, то праўда, — згадзіўся дзядуля. — А спаць вось ніяк не хочаш... Я табе яшчэ адзін вершык раскажу пра грыбы і рэха.

## РЭХА Ў ХОВАНКІ ГУЛЯЕ

Мы ў ляску грыбы збіраем
З Вадзікам і Машаю.
Рэха гучна паўтарае
Галасамі нашымі.



То галёкае, то смехам
Гучным адгукаецца.
Кожны ведае, што рэха
Ад усіх хаваецца.
Калі дружна заспяваем,
Адзавецца песняю…
Рэха ў хованкі гуляе,
Каб было нам весела.



Дзядуля хітравата ўсміхнуўся і прапанаваў:

— А зараз, Патапка, моцна-моцна закрый вочы і падумай: якое новае слова атрымаецца, калі ў слове «рэха» літары пераставіш?..

Мядзведзік моцна заплюшчыў вочы, і скора пачулася роўнае дыханне.

— Натаміўся, набегаўся — спі! — ласкава сказаў Патап Іванавіч, папраўляючы коўдру.





## А НА НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ…

Патапка ішоў па Арэхавай вуліцы. З аднаго і другога боку гукалі грыбнікі. Рэха насіла іх галасы. У кустах чуўся дзіцячы смех: хлапчукі рвалі арэхі.

Патапка ўспомніў учарашняе дзедава пытанне: як пераставіць літары, каб з «рэха» новае слова атрымалася? Аказалася вельмі проста: рэха — арэх.

Узрадаваны, Патапка заспяшаўся дадому, каб пахваліцца дзеду, што сам дадумаўся, без нічыёй падказкі. Нечакана запыніў яго сумны аўтамабіль. Стаяў ён адзінока ў баку ад дарогі. Быццам заблудзіўся. Ніхто да яго не падыходзіў. «У дзеда спытаю, як аўтамабілю дапамагчы», — вырашыў Патапка.

Патап Іванавіч быў у двары, і мядзведзік яшчэ здалёк гукнуў яму:

— Дзеду, а я адгадаў тваю загадку. Варта апошнюю літару ў слове «рэха» паставіць першаю і атрымаецца «арэх». Рэха — арэх! Рэха — арэх! — запляскаў у далоні Патапка.

— Малайчына, правільна! — пахваліў дзядуля.

Мядзведзік расказаў і пра сумны аўтамабіль.

— Нічога, — супакоіў яго Патап Іванавіч. — Адшукае машына сваю дарогу, а не — дык зайка яму дапаможа.

— Які зайка? Цімошка?

— Можа, і Цімошка…

## ЗАЙ І «МЕРСЕДЭС»

Зай спяшаўся цераз лес.
Бачыць: плача «Мерседэс».
Сярод дрэў стаіць адзін:
Можа, скончыўся бензін
Альбо ў лесе заблудзіў?
Зайка крыкнуў на бягу:
«Едзь за мной — дапамагу!»
Шпарка мчаўся даўганогі,
Але вывеў на дарогу.
«Мерседэс» паціснуў лапу
І сказаў з паклонам: «Дзякуй!»

— Скажу Цімошку, хай пакажа аўтамабілю дарогу, — задуменна сказаў Патапка.

«Добры выйдзе з яго лясны гаспадар, раз пра ўсіх клапоціцца, перажывае», — суцешыўся дзядуля, а ўголас сказаў:

— А людзі прыдумалі не толькі машыну, але і паравоз…



## ЯК ПАРАДНІЛІ АГОНЬ З ВАДОЙ

За палямі, за лясамі,
Дзе жывём сягоння з вамі,
За красу і дабрату
Пакахаў Агонь Ваду.
З густам падабраў жар-кветкі
І падаўся да суседкі.
Запытаў:
— Скажы, Вадзіца,
Хочаш ты са мной вадзіцца?
Будзеш рыжага кахаць,
Абдымаць і цалаваць?

А Вада не рада быццам,
Да яе — не падступіцца:

Пацямнела ўся, шыпіць,
Бы збіраецца ўтапіць.
— Закахаўся так імгненна
Я ў цябе, Вада, павер! —
І Агонь стаў на калена,
Як шляхетны кавалер.

Растапіў ён лёд на сэрцы,
І прызналася тады,
Што яму, суседу, верыць,
Хоча побач быць заўжды.
Ды сказала:
— Толькі мушу
Я не думаць пра сям'ю!
Альбо ты мяне засушыш,
Альбо я цябе залью.
Вось такая небяспека!

І пайшлі да Чалавека,
Каб спакойна, каб без кпін
Рассудзіць іх змог адзін.
Чалавек іх доўга слухаў —
Словы роспачы і скрухі,
Адказаў ім:
— Чым магу,
Дарагія, памагу!
І народзіцца ў вас Па́ра —
Працавітая дачка.
Так, пакуль што гэта мара,
Ды нядоўга ўжо чакаць:
Па́ра хмаркай не сплыве —
Павядзе саставы ў свет.

Чалавек прыдумаў топку,
Чан вялікі — для вады,
І на рэйках нетаропка
Зазвінелі паязды…

Сёння ўжо электравозы
Шпарка мчаць за небакрай,
Але дзядзьку Паравоза,
Дружа мой, не забывай!
І цяпер, у новым веку,
Прыгадаем мы з табой,
Што ўдалося чалавеку
Парадніць агонь з вадой.

У гульнях-забавах хутка праляцела лета. На дрэвах з'явілася залаціста-жоўтае, чырвонае, аранжавае лісце. З кожным днём яго станавілася ўсё больш, быццам мастачка-восень прыйшла і расфарбавала лес.

А калі ўрываўся свежы вецер, ён зрываў з галін лісты, і яны доўга яшчэ яркімі парашуцікамі кружыліся ў паветры, перш чым легчы на зямлю. Пра такую пару года і расказаў неяк унуку Патап Іванавіч казку.

## МАСТАЧКА Ў ЛЕСЕ

У лес зайшла мастачка Восень,
З сабой прынесла фарбаў восем
Ды пэндзлік. І была гатова
Раздаць, пафарбаваць абновы.

Бярозка выбрала маністы
І сарафанчык залацісты,



А Вольха — толькі завушніцы,
Якімі можна ганарыцца.

— Мне б што ярчэй! — тут Клён прамовіў.
— Што ж, калі ласка, будзь пунсовы…
Зірнуў у люстра, неспадзеў
Сказаў:
— Дык я ж памаладзеў!

Падбеглі гуртам тры асіны:
— Быць мы чырвонымі павінны!
— Чырвонай фарбы — у дастатку.
Падходзьце — толькі па парадку!..

А Елка, што наўзбоч стаяла,
З Сасной аб нечым размаўляла.
— Што не падходзіце, сястрыцы? —
Спытала Восень.

— Маладзіцца?!
Мяняць адзенне мы не будзем,
Бо засмяюць звяры і людзі, —
Сказала Елка і няміла
Зірнула. Раптам прыгразіла:

— Бліжэй падыдзеш крокаў колькі —
Адчуеш моц шыпулек колкіх!..
— Дарма, бо фарбы і адценні
Абновяць рознае адзенне…

— О не, любой парою года
Быць у зялёным — наша мода!
— Не хочаце? Тут ваша права!
Пакрочу ў іншыя дубравы, —
І Восень, склаўшы ўсё ў каробку,
Пайшла па сцежцы нетаропка…

Сасна і елка ў зялёным
Ні перад кім не б'юць паклонаў,
А хто фарсіць пачаў калісьці,
Увосень зноў губляе лісце.

Аднойчы, калі Патапка з ліскай Лізай гулялі ў асеннім лесе, ім прама пад ногі ўпаў агністы кляновы ліст. Ліза падняла яго і радасна ўсклікнула:

— Ой, скора ўжо Новы год!

— А калі ён будзе? — спытаў Патапка.

Даведаўшыся, што Новы год прыйдзе ўзімку, калі ён будзе спаць, засмуціўся.

Тады звяркі вырашылі прыбраць елку, каб мядзведзік таксама пабываў на навагоднім свяце. Зусім як у гэтай казцы.



## ЁЛКА ДЛЯ ПАТАПКІ

Восень шчодра сыпле лісцем
Жоўтым і барвовым.
— Вельмі скора, — кажа Ліска, —
Год сустрэнем Новы.
— Новы год калі настане? —
Запытаў мядзведзік.
— Як зіма ў бялюткіх санях
З бомамі прыедзе.
Ёлкі заіскраць агнямі.
Прыгажосць — дый годзе!
Хочаш быць, Патапка, з намі
Ты на Новым годзе?
— Вельмі! — выдыхнуў мядзведзік,
Падумаўшы трошкі. —
Эх, шкада, што ўсе мядзведзі
Спяць зімой у ложках!..

Не пабачу, значыць, свята,
Цацак і ласункаў.
Кажуць Дзед Мароз багата
Носіць падарункаў?..

— Не журыся. Бач, ахапкі
Лісця лес скідае.
Можа, ён табе, Патапка,
Ёлку прыбірае?..
— Будзе ёлка, — не паверыў, —
Гэтакай часінкай?
— Як збяруцца птушкі, звеeры,
Убяром ялінку…

Начапілі цацак розных,
Ягадаў ды лісця.
Воўк надзеў кажух Мароза,
За Снягурку — Ліска.
І вадзілі карагоды.
Дзед Мароз Патапку
Падарыў кадоўбчык мёду,
Пернікаў — з ахапку…

Час прайшоў. Ялінак лапкі
Снег засыпаў колкі…
Сняцца ў берлагу Патапку
Новы год і ёлкі.

Шчаслівы, вярнуўся Патапка дадому з пернікамі і кадоўбчыкам мёду.

— Дзеду, а для мяне звераняты елку ўпрыгожылі! — з парога гукнуў ён. — Як хораша было! І заўсёды на свяце так радасна?




— Канечне, — адказаў Патап Іванавіч, — калі ніхто не сапсуе яго.

— А што, і так бывае?

— Аднойчы Воўк захацеў нашкодзіць…

Патап Іванавіч дастаў з этажэркі тоўстую кнігу і пачаў чытаць п’есу-казку. І за Дзеда Мароза, і за Лесніка, і за Ваўка…



## НА ПАЛЯНЕ, КАЛЯ ЁЛКІ…

*Лясная паляна. Пасярэдзіне — ёлка, упрыгожаная рознакаляровымі цацкамі. Выбягае Заяц.*

**Заяц** *(цяжка дыхае).* Ой, ледзьве ад Ваўка ўцёк! Добра, што Ляснік дапамог, а то… *(Уздыхае, азіраецца, заўважае ёлку.)* Хто гэта ўпрыгожыў яе пад Новы год? Пайду скажу сябрам, разам паскачам каля ёлкі. *(Выбягае.)*

*З другога боку з'яўляецца Воўк.*

**Воўк.** Дзе ж гэта Заяц падзеўся? Сюды, здаецца, бег *(заўважае навагоднюю ёлку, пагардліва).* Прыбяры пень, так і ён будзе прыгожы! *(Чуваць нечыя крокі.)* Гэта, мусіць, Заяц. Няўжо я яго апярэдзіў? *(Узрадавана.)* Прыйдзеш, даражэнькі, у самыя лапы! *(Хаваецца пад ёлку.)*

*Уваходзяць Дзед Мароз і Снягурка.*
*У Дзеда Мароза за плячамі мяшок з падарункамі.*

**Снягурка.** Глянь, дзядуля, якая прыгожая ёлка.

**Дзед Мароз.** Той, хто так ёлку прыбраў, заслужыў навагодні падарунак. Праўда, унучка?

**Снягурка.** Праўда, дзядуля.

**Воўк** *(ціха).* Вось бы мне ад Дзеда Мароза падарунак атрымаць! *(Выбіраецца з-пад ёлкі.)* Гэта я ўпрыгожыў ёлку!

**Дзед Мароз** *(здзіўлена).* Няўжо ты? Для каго?

**Воўк.** Ведаю, Новы год набліжаецца, дык я для зверанят ёлку прыбраў.

**Дзед Мароз.** Малайчына! Што табе за гэта даць?

**Воўк.** Зайчыка мне б жывога…

**Снягурка.** Няма ў нас такога падарунка.

**Дзед Мароз.** Дам я лепш табе, Воўча, цукерак. *(Падае мяшочак.)*

*Чуваць голас Лесніка: «Не бачылі Ваўка?»*
*Воўк хаваецца.*

**Ляснік** *(да Дзеда Мароза і Снягуркі).* Вы не бачылі Ваўка?

**Дзед Мароз.** Толькі што размаўлялі з ім… Дзе ж ён?

**Снягурка** *(глядзіць пад ёлку).* Знік некуды. А навошта ён вам?

**Ляснік.** Нядобры ён. Зайца крыўдзіць.

**Дзед Мароз.** Не можа быць! Ён жа для зверанят ёлку упрыгожыў.

**Ляснік** *(абурана).* Манюка ён! Гэта я для дачкі Аленкі і звяроў на ёлку цацкі павесіў.

**Дзед Мароз.** Чаму ж ён зманіў?

**Ляснік.** Вы, мабыць, паабяцалі нешта таму, хто ўпрыгожыў ёлку?

**Дзед Мароз.** Я даў яму падарунак. А ён ашукаў мяне, старога. Э-хе-хе!... *(Уздыхае, ківае галавою.)*

*На паляну выбягаюць Аленка, Заяц, Вавёрка і Ліса.*

*Спяваюць.*
*На палянку, пакульгваючы, выходзіць Воўк.*

**Воўк.** Ву-у-у! Холадна мне, су-у-мна аднаму-у, хачу-у-у з вамі гуляць.

**Аленка.** Чаму пад нашымі вокнамі выеш?

**Вавёрка.** Навошта маіх дзетак палохаеш?

**Ляснік.** Чаго за Зайцам ганяешся?

**Воўк.** Слова даю, што больш не буду-у. *(Да лесніка.)* А за Зайца ты мне нагу прастрэліў. Ву-у-у, баліць! *(Да Дзеда Мароза.)* Вось твой мяшочак з цукеркамі. Несправядліва я атрымаў яго. Вазьмі назад.

**Дзед Мароз.** Сёння я ўсім падарункі разношу. Няхай табе застануцца гэтыя цукеркі. *(Да ўсіх.)* Дык паверым яшчэ раз Ваўку?

**Усе** *(разам)*. Паверым!

*Воўк становіцца ў круг. Усе скачуць вакол ёлкі і спяваюць.*
*Нечакана Воўк кідаецца на Зайца.*
*Ляснік хапаецца за стрэльбу.*
*Воўк уцякае.*

**Ляснік** *(махнуў рукою)*. Эх, уцёк!..

**Ліса.** Манюка, прыкінуўся кульгавым, каб Зайца злавіць. А стрэльбу ўбачыў — пабег не кульгаючы.

**Аленка.** Вось і вер Воўчаму слову!

**Дзед Мароз.** Хто ж паверыць таму, хто двойчы змані́ў?!

**Снягурка.** Ніхто, дзядуля, ніхто!

**Ляснік.** Болей Воўк сюды не вернецца, а не дык… *(Трасе стрэльбаю.)*

**Аленка.** Давайце весяліцца далей!

*Усе зноў становяцца ў круг, скачуць вакол ёлкі, спяваюць.*



## ЧАМУ ВОЎК НЕ СКЛАДАЕ ВЕРШАЎ?

— Добра табе, Патапка, — сказаў аднойчы ваўчок Вова, — твой дзядуля вершы складае, казкі распавядае. А ў нас, у ваўкоў, усё інакш. Воўк вершаў не піша.

— А чаму?

— Была калісьці такая гісторыя…

Адзін раз Воўк, не спяшаючыся, дабіраўся дамоў. Па дарозе ён сустрэў Вавёрку. І тая сказала:

— Калі гаварыць у рыфму, так атрымоўваюцца вершы.

— Як гэта ў рыфму? — пацікавіўся Воўк.

— Каб складна было.

— О, гаварыць складна я ўмею!

Далей Воўк не проста ішоў, а складаў вершы. Першы даўся яму лёгка:

Я іду, іду, іду,
І дадому я прыйду.

Воўк ад радасці аж завыў. Нават забалочаная мясцінка, якую загацілі, не сапсавала настрою. Пакуль пераходзіў грэблю, склаў яшчэ адзін верш:

Можна бегам, можна пехам,
Але ўсё-ткі лепей ехаць.

На лясной дарозе засігналіў аўтамабіль. За рулём сядзеў Заяц. Воўк спыніў машыну. Сеў поруч з вадзіцелем і пахваліўся:

— Я ўмею вершы складаць, а ты?

— Не спрабаваў, — прызнаўся Заяц. — Гэта, мусіць, вельмі цяжка?

— Зусім не! Паслухай, я толькі што склаў:

Я іду па лесе,
Напалохаю Алеся.

Зайцу верш не спадабаўся. Ён сказаў:

— А калі Алесь са стрэльбай?

— Уцяку па грэблі.

— Гэтак лепей! — зазначыў Заяц.

Воўк ужо не мог не гаварыць у рыфму.

— Заяц, а як твайго дзеда завуць?

— Проста Зай.

Воўк зарыфмаваў:

Твой дзядуля проста Зай,
Стары, кульгавы, ай-я-яй!

— Калі будзеш кпіць з майго дзеда, высаджу з машыны, — папярэдзіў Заяц.

— Добра, маўчу.

Але маўчаў Воўк толькі хвіліну. Потым запытаў:

— Заяц, а як цябе завуць?

— Цімошка.

Чаму ты, Цімошка,
Маленькі, як мошка?

Заяц рэзка затармазіў.

— А як цябе, Воўча, завуць?

— Вова.

— Гэй, Вова безгаловы, злазь з машыны!

— Дык рыфмы ж няма.

— Ёсць рыфма ці — няма, а далей я цябе не павязу, — строга сказаў Заяц.

Воўк, крэкчучы, вылез з кабіны. Невясёлы, ішоў ён далей і думаў: «Што за карысць з гэтых вершаў?! Калі б не яны, Заяц дадому завёз бы, а так тупай адзін, бі ногі».

З таго часу Воўк не складае вершаў.





## ЛЯСНАЯ ГОСЦЯ

Набліжаўся Новы год. У дзверы лясной школы нехта моцна пастукаў. Звераняты адарваліся ад падручнікаў, глянулі ў акно і ўбачылі лясную госцю.

— Ёй холодна, — тужліва сказала вавёрачка Ада.

— Давайце паклічам яе ў клас! — прапанаваў зайчык Цімошка.

— Не, — сказала настаўніца Барбара Баброўна, — у класе ёй будзе цесна. Давайце лепей запросім яе ў залу.

Абагрэўшыся ў цяпле, лясная госця засумавала без сяброўкі-бярозы, без рабіны ў чырвоных каралях, якія раслі непадалёку.

— Давайце ўпрыгожым яе! — падказала Барбара Баброўна.

Звераняты павесілі цацкі, цукеркі, яблыкі, а наверсе зорку прымацавалі. А госці ўсё роўна не радасна:

— Да мяне прыбягалі заяц, вавёрка, ліса.

— Ды мы ж тут, з табою! — засмяялася ліса Ліза.

— Давайце зробім маскі, каб госця наша не пазнала нас, — прапанаваў Цімошка.

Звераняты зрабілі маскі. А калі на свята прыйшлі Дзед Мароз і Снягурка і ўсе сталі вадзіць карагод, зусім развесялілася лясная госця. І вырашыла яна кожны раз прыходзіць да малых пад Новы год.

— Адкажы, Патапка, як завуць лясную госцю?

Успомніў мядзведзік, якое свята яму падрыхтавалі сябры, і адказаў упэўнена:

— Гэта навагодняя ёлка.





## КЛОПАТЫ ЗАЯ ПАД НОВЫ ГОД

— Зай, збірай лясны народ!
Гэткія дзівосы:
На парозе Новы год,
Хоць у лесе — восень!.. —
Гаварылі Беляку
Воўк з Лісою гуртам. —
Цёпла, весела ў ляску,
А ты ў белай футры…
Не шкадуй, Зайчына, ног,
Каб сёння пад вечар
Запрасіў звяроў у Лог
На лясное веча.

Сход як сход.
Ёсць старшыня.
Зубр звяроў агледзеў —
Шмат знаёмых і радня:
— Што няма Мядзведзя?
— Хоць пакуль і не зіма, —
Зайка апраўдаўся, —
Ды ў бярлог залёг. Дарма
Разбудзіць сабраўся.

— Пра Міхайлу нешта чуў,
Што паспаць аматар.
Стрэну — вушы накручу,
Лесу губернатар!
Добра, будзем без яго, —
Зубр зажмурыў вока. —
Падкажыце мне, каго
Паслаць недалёка…

— Недалёка. А куды? —
Запытала Ліска.
— Не на Чортавы Брады.
Я сказаў, што блізка.
Ліст патрэбна, каб дайшоў
Да Дзеда Мароза.
Новы год, а без снягоў,
Без віхраў грозных.

Паглядзеў на маладзік
Над вярбою ніцай,
Адказаў, здаецца, Дзік:
— Паштара пашліце…

— Паштара, дык паштара! —
Зубр не стаў спрачацца.
Закрычалі ўсе:
— Ура!
Ну, Бяляк, за працу!

— Што вы, браткі?! —
Піскнуў Зай. —
Толькі што з дарогі.
Абабег няблізкі край,
Натаміўшы ногі.
Бег бы, колькі маю сіл,
Але спраў багата:
Я дасюль не накупіў
Дарункаў на свята.

Ды пачуў нядобры гул,
Выкрыкі, пагрозы,
Зай сумеўся:
— Пабягу
Да Дзеда Мароза.

Зай так бег, ажно імчаў
Праз палеткі, межы,
Аж пакуль не адшукаў
Пушчу Белавежы.
Не заблудзішся, калі
Будзеш прыглядацца,
І сцяжыны прывялі
Зайку да палаца.

Як належыла, прыняў
Дзед парламенцёра:
Чаем пахкім частаваў,

Распытаў пра гора.
— Не, сакрэтаў тут няма, —
Зай сказаў без позы. —
Запазнілася Зіма.
Без снягоў, марозу
Цяжка птушкам і звярам.
Памажы, Дзядуля!
Слота-хлюпа тут і там,
Стань хоць на хадулі!..

— Снег патрэбен. Знаем мы.
І давай пад вечар
Разам пойдзем да Зімы —
І яе палечым.
Цела ў Зімкі, чуў, як жар…

Не дзеля забавы
Падхапілі самавар,
Лекавыя травы
І пайшлі лячыць Зіму…
Потым Дзед пакункі
Парасклаў:
— Памог — таму
Бяры падарункі!

Нёс дадому, а ў бары
Ад сняжынак — свежасць.
Птушкі ведалі, звяры:
Зай — у Белавежы!..

Як і чакалі звяры, белыя пушыстыя сняжынкі закружыліся ў паветры. Яны ціхенька апускаліся долу, закрывалі і ўпрыгожвалі зямлю, елкі ды сасонкі.



## НА МАРОЗЕ ГРЭЮЦЦА

Фарбы белыя ў зімы —
Снежнае прыволле.
У абноўках зноў дамы,
Лес, пагорак, поле.
Раздавала напракат
Елкам і сасонкам
Кажухі, як у дзяўчат,
Белыя валёнкі.
І цяпер не страшна ім,
Як гудзе мяцеліца.
У адзенні дарагім
На марозе грэюцца.

Не бачыў Патапка ні снежнага прыволля, ні прыгажунь елачак ды сасонак: ён салодка спаў на цёплай пярыне, сніліся яму

светлыя, гожыя сны. Але аднойчы скрозь сон пачуў, як паблізу недзе быццам звінела, цурчэла вада.

Патапка расплюшчыў вочы, але звон не сціхаў. Мядзведзік стаў будзіць Патапа Іванавіча:

— Дзеду, а што гэта звініць?

Патап Іванавіч паслухаў і адказаў:

— Гэта ручаёк ажыў. Значыць, і нам пара выбірацца з церама...





## ЗАЯЦ, ВОЖЫК І РУЧАЙ

Лепшы сябар у зайца Цімошкі — вожык Калючка. Часта яны гуляюць разам. Ды сёння Калючка пайшоў далёка збіраць яблыкі-паданкі, а сябра свайго не паклікаў.

Застаўся заяц адзін. Сеў Цімошка на валуне на беразе ручая. Сумна. Нечакана пачуў вясёлы галасок:

— Прывітанне, Цімошка!

— Прывітанне, — здзіўлена адказаў заяц. — А ты хто такі?

— Я — ручай Буль-Буль! — засмяяўся-зазвінеў ручай і пырснуў халоднай вадой.

— Ой, сцюдзёна! — уздрыгнуў Цімошка.

— Не крыўдуй! — папрасіў ручай і адразу прапанаваў: — Давай лепей пабяжым навыперадкі.

І яны пабеглі. Цімошку ніяк не ўдавалася дагнаць сябра. Здаецца, вось ён, а праз хвіліну — далёка! Яны доўга бегалі, весяліліся.

Увечары вожык Калючка пастукаўся да Цімошкі. Ён паклаў на стол вялікі, ружовы, сакавіты яблык, і сябры паміpыліся. Заяц расказаў пра новага сябрука Буль-Буля, і яны сталі сябраваць утрох: заяц, вожык і ручай.

Непрыкметна прабег час. Халодным лістападаўскім ранкам, калі на траве паблісквала шэрань, вожык сказаў сябрам:

— На зіму хату я ўжо збудаваў. Прыйшла мне пара класціся спаць. Бывайце да вясны!..

І засталіся заяц і ручай удвух. Нават калі выпаў снег, ручай яшчэ доўга весела звінеў і клікаў Цімошку гуляць. Прыціснуў траскучы мароз. Раніцай заяц прыбег да ручая і стаў гукаць сябра:

— Буль-Буль, ідзі гуляць!

У адказ — цішыня. Ручай таксама заснуў.

Зіма выдалася галодная для зайца: усё засыпала снегам. Выручала толькі горкая асінавая кара. Сумна было Цімошку без сяброў. Ён не хацеў разбудзіць вожыка і не стукаў у яго дзверы. Затое да ручая прыбягаў ледзь не кожны дзень.

— Буль-Буль, чаго маўчыш? — пытаўся ён, але ручай спаў.

Прыйшлі цёплыя сакавіцкія дні, і аднойчы яшчэ здалёк заяц пачуў знаёмы голас:

— Прывітанне, Цімошка! Як жывеш?

— Ах ты, маўчун! — узрадаваўся заяц. — А я цябе колькі разоў клікаў!

— Ды спаў я, спаў! — сказаў Буль-Буль і прапанаваў: — Пабеглі навыперадкі!

І яны сталі гуляць разам. Неўзабаве і вожык пакінуў сваё жытло, далучыўся да дружбакоў.



## ЧЫЯ МОРКАЎКА?

Раніцай вавёрка Ада выглянула з дупла і ўбачыла: на суседняй бярозе нехта павесіў моркаўку. Толькі чамусьці белую. «Гэта Цімошка, мусіць, павесіў, — вырашыла Ада. — Ён вельмі моркву любіць!»

А тут і заяц некуды спяшаецца.

— Слухай, Цімошка, ці не твая моркаўка на бярозе вісіць?

— Не, не мая?! — здзівіўся заяц. — Я гэтак высока і залезці не магу.

— І то праўда. Хто ж яе павесіў? — задумалася вавёрка Ада. — Можа, дзяцел? Учора чула, як ён стукаў па бярозе.

Цімошка і Ада пайшлі да дзятла.

— Дзядзечка, гэта ты ўчора на бярозе, што ля маёй хаты, моркаўку павесіў? — запыталася Ада.

— Моркаўку? Ды не, ніякай моркаўкі я не вешаў. Я там толькі крыху бярозавіку папіў, — адказаў дзяцел.

— Чыя ж моркаўка? — задумаліся ўсе.

— А можа, яна нічыя? — выказала здагадку вавёрка.

— Як гэта нічыя? Такога не бывае, — не згадзіўся Цімошка. — Яе абавязкова нехта павесіў!

— Можа, павесіў — і забыўся? — сказаў дзяцел. — Дык ты, Цімошка, вазьмі сабе на абед…

І вось яны зноў ля той бярозы.

— А моркаўка дзе? — запытаў дзяцел.

— Вунь там, ля самай вершаліны вісела. Праўда, Цімошка?

— Праўда.

— Значыць, забраў той, хто павесіў, — вырашыў дзяцел.

— Значыць, забраў, — згадзіўся і заяц.

— А шкада, — сказала вавёрка Ада. — Які смачны абед быў бы ў цябе, Цімошка!

— Нічога, — адказаў той. — Вясной ежы больш, чым зімою.

… Дзядуля ўсміхнуўся і запытаў у Патапкі:

— Адгадай, што гэта за белая моркаўка такая? І ці згадзілася б яна Цімошку на абед?

Задумаўся мядзведзік, не можа здагадацца.

— А ты ў акно зірні! — падказаў Патап Іванавіч.

Убачыў Патапка ледзяшы, што спускаліся са стрэх і здагадаўся:

— Ой, дзеду, гэта ж ледзяшы! Не, іх есці нельга. Захварэць можна…

— Правільна, унучак, растуць у сакавіку такія «моркаўкі»! А наступныя месяцы будуць яшчэ цяплейшымі…



## ЧАМУ САКАВІК НА МАЙ ЗЛУЕЦЦА

«Сею снег, і дождж, і град —
Красавік цяплейшы.
Дакажы, малодшы брат,
Што яшчэ й мудрэйшы!» —
Гэтак думаў Сакавік,
Як у госці клікаў:
— Вось прыедзеш, Красавік, —
Будзе баль вялікі!..

Меншы брат каня запрог,
Прымасціўся ў возе.
Дзень прыгожы. Конь, як мог,
Тупаў па дарозе.
Хмара раптам прыплыла,
Завалiла снегам.
Не дабрацца да жытла
Ні трушком, ні бегам.

Павярнуў свайго каня
Красавік дадому.
Там яшчэ амаль паўдня
Праляжаў ад стомы.

Ды пра баль не забываў,
І ў суботу ўранні
Ён старанна рыхтаваў
Коніка і сані.
А ў нядзелю — зноў цяпло:
Снег растаў, паводка.
«Тут не сані б, а вясло
З надзіманай лодкай.
Зноў няўдача! Зноў пралік!
Як сустрэцца з братам?» —
Зажурыўся Красавік,
Седзячы ля хаты.

Бачыць: крочыць цераз гай,
Абмінуўшы поле,
Брат найменшы, светлы Май,
З песенькай вясёлай.
— Што сумуеш, — Май спытаў, —
Брат, з якой нагоды?..
Красавік распавядаў
Пра свае прыгоды.
— Братка, едзь, што б ні было,
Па любой дарозе.
Толькі сані ды вясло
Прывяжы на возе…

І даехаў без прыгод
Красавік да брата.

Сустракалі бацька Год
І гасцей багата.
— Не спазніўся? Трэба, сын,
За работу брацца!
Брат старэйшы — на спачын,
А табе — за працу!.. —
Мовіў бацька Год, і ўсе
Запляскалі ў ладкі.
Сакавік на ўслон прысеў:
— Як даехаў, братка?
— То снягі, то вадаграй,
Так што не да смеху…
Добра, падказаў мне Май,
Як сюды даехаць.

Сакавік жа снег наслаў,
А пасля — разводдзе,
Ды нічога не сказаў
Ён пры ўсім народзе,
Але вырашыў: «Калі б
Не навука тая,
Я, напэўна, на Зямлі
Правіў бы да мая…»
Прыгразіў: «Разумнік Май,
«Ласкі» не забуду!
Буду помсціць, так і знай,
Вечна помсціць буду!..»

Весніх дзён даўно адлік,
Ды марозіць трошкі.
— З Маем, — кажуць, — Сакавік
Зноў бярэцца ў рожкі!..



## СТРАШЫДЛА

Пацяплела. Дні сталі доўгія, але заяц да заходу сонца не паспеў ускапаць зямлю, зрабіць градкі і пасеяць капусту. Калі закончыў работу, на дварэ быў прыцемак.

Заяц схаваў рыдлёўку і пáціху рушыў дамоў. Праходзячы міма рачулкі, выразна пачуў, што зазвінела… жалеза.

«Якое страшыдла жыве ў нашай рачулцы?» — падумаў заяц. Зазірнуць, хто гэта, у яго не хапіла адвагі. Праз хвіліну прадаўгаватая белая галава з'явілася над травой, што расла на беразе.

«Страшыдла хоча мяне з'есці», — спалохаўся заяц і кінуўся наўцёкі. Дабег да вожыкавай хаткі, пастукаў у дзверы.

— Хто там? — пачуўся вясёлы вожыкаў голас. — Заходзь!

Заяц ускочыў у хату. Ён цяжка дыхаў і дрыжаў усім целам.

— Што з табой, сусед? — спытаў вожык.

— За мной гоніцца… З'есці хоча.

— Хто гоніцца?

— Не ведаю, — у зайца зуб на зуб не трапляў. — З рачулкі вылезла.

— Пайду пагляджу, хто цябе так напалохаў, — сказаў вожык і ўзяў ліхтарык.

— Не хадзі! — папрасіў заяц. — Страшыдла і цябе з'есць!

— Мяне, калючага, не так проста з'есці, — засмяяўся вожык і пайшоў.

Вярнуўся ён хутка.

— Праўду кажуць, што ў страха вочы вялікія! — загаварыў вожык. — Гэта ж звычайны конь.

— Конь? — не паверыў заяц. — А чаго ён у рачулку палез?

— Піць захацеў, вось і палез. А ты з перапуду і прыняў яго за страшыдла. Зараз на луг скача.

— А чаго ён увесь час звініць? Палохае?

— Ды не, спутаны ён, а пута — жалезнае…

І сапраўды, конь, пазвоньваючы путам, праскакаў паўз вожыкавы вокны.

У гэты час на небе з'явіліся зоркі. Яны асвяцілі дарогу і заяц без прыгод вярнуўся дахаты.

… Паслухаў Патапка дзедаву казку і сказаў:

— Гэта не пра нашага Цімошку — ён не баязлівец!

— Не-не, гэта другі заяц.

— І на градках ён любіць працаваць, — запэўніў мядзведзік.

— Як браты, пра якіх я зараз раскажу.



## ЭХ І ЯГО БРАТЫ

Невысокі дом. Утрох
Там жывуць Эх, Ах ды Ох.
Ранкам Эх спяшаў на працу,
А братам бы адляжацца.
У пагожыя дзянькі
Ох і Ах — каля ракі.
Павучаў часамі Эх:
— Зараз час не для пацех!
Навядзіце скрозь парадак:
І на градах,
І ля градак,
Каб не ўлезлі цераз плот
Лебяда, гарчак, асот.

— Вырасце ў мяне гарох! —
Вымавіў з усмешкай Ох. —
Летам лепей адпачыць...

Непрыкметна час бяжыць.
Ураджай пара збіраць
І ў засекі пахаваць,
А на градах — вось бяда! —
То асот, то лебяда.

— Дзе цыбуля? Дзе гарох? —
Аж заплакаў бедны Ох. —
Морква дзе, часнок, капуста?
Ох, чаму на градках пуста?..
— А расло ж як на дражджах! —
Падтрымаў найменшы Ах.

— Тым, што вырасла на градках,
Падзялюся я па-брацку, —
Супакоіў меншых Эх. —
Набівайце туга мех.
Не адзін, а, можа, пяць,
Каб зімой не галадаць!
Ведайце: без дружнай працы
Не дабіцца нам багацця...

На наступную вясну
Ім было ўжо не да сну.
Працавалі без прынукі:
Пасадзілі,
Прапалолі, —
Урадзіла,
Як ніколі...
Дзякуй Эху за навуку!



## ХМАРЧЫН РУЧНІК

Скончылася вясна, і пачалося лета. Аднойчы мядзведзіка Патапку памылі, выцерлі чыстым ручніком. Маці пачала прыбіраць у хаце, а ён прымасціўся ля акна.

Нечакана выплыла хмарка. Паліў цёплы летні дождж. Патапка бачыў, як ён мые дрэвы і кусты.

Хмарка паплыла далей. Зноў выглянула сонца. І Патапка заўважыў на небе… каляровы ручнік.

— Мамачка! — крыкнуў ён. — Глянь: хмарка ручнік пакінула!

— Дзе ён?

— Вунь, на небе, — паказаў лапай Патапка і дадаў:

— Я ведаю навошта. Каб дрэвы, памыўшыся, маглі выцерціся.

Тут сонейка схавалася, і ручнік — прапаў.

— А дзе ручнік? — захныкаў Патапка.

— Чаго ты плачаш, дурненькі? — пачала суцяшаць маці. — Сам жа сказаў, што хмарка пакінула ручнік, каб дрэвы маглі выцерціся пасля дажджу. Дрэвы выцерліся, і хмарка забрала свой ручнік.

Маці загадкава ўсміхнулася:

— Дык ты ведаеш, пра які ручнік я кажу? А можа, знаеш, і які сон прысніўся Міхаліку?

— Хмарчын ручнік? — адказаў Патапка. — Я здагадаўся: гэта — вясёлка. А вось пра Міхалікаў сон — не!

— Тады хай дзед табе раскажа…

## СНІЎ МІХАЛІК СОН САЛОДКІ

Летні ранак. Зайчаняткі,
Каб не ленавацца,
Хутка робяць фіззарадку
І бягуць на працу.
У Зайчыхі град багата —
Значыць, шмат праполкі…
Мурашы будуюць хату,
Мёд збіраюць пчолкі,
Ліска вокны працірае
У прасторнай зале…
А скажыце, хто з вас знае,
Дзе цяпер Міхалік?

Адляжаў мядзведзік бокі,
А ўставаць не хоча,
Хоць упартая Сарока
Голасна стракоча.




Так стракоча, гэтак будзіць —
Разбудзіць не можа.
— Што з Міхалкам нашым будзе? —
Запытаўся Вожык.
Мішка Вожыку спрасонку
Адказаў лагодна:
— Сніцца: лезу на сасонку,
Дзе калода з мёдам,
Мёду там вядро — не сподак,
Вось-вось-вось дастану…
Прынясіце міску мёду —
Так і быць, устану…

Вожык папрасіў у пчолак:
— Дайце мёду крышку!
— Лежню, — загулі, — ніколі!

Лежню — ані лыжкі!..

Што рабіць? Тады Сарока,
Сеўшы на галіне,
Пракрычала:
— Недалёка
Дзеці рвуць маліну!
— Як маліну? Дзе маліну?! —
Падхапіўся лежань. —
Што, надумалі пакінуць
Без салодкай ежы?!
— Падхапіўся, бач, адразу! —
Вожык пырснуў смехам.
Засмяяліся ўсе разам —
Рагатала рэха.

Ды Міхалік не зазліўся.
Быў адказ кароткі:
— Я не лежань… Мне прысніўся
Вельмі ж мёд салодкі.
Разумею: шмат работы, —
І за дзве хвіліны,
Новыя абуўшы боты,
Рушыў па маліны.





## МАЛІНАВЫ ЧАЙ

Не толькі Міхалік любіў салодкія ягоды. Патапка таксама.

Непадалёку ад мядзведжага жытла расла маліна. Сёлета яна ўрадзіла, як, можа, ніколі. Не давалі ягады спакою маленькаму Патапку. Але ён памятаў дзядулеў наказ:

— Патапка, не рві зялёных ягад. Пачакай, пакуль яны даспеюць. Тады яны будуць духмянымі і салодкімі.

Патапка і сам не еў, і вартаваў, каб ніхто не абарваў. А сёння не выцерпеў, сарваў адну ягадку — і ў рот. Яна была салодкая і духмяная. Значыць, пара рваць.

Мядзведзік сам наеўся ўдосталь, а потым вырашыў:

— Занясу яшчэ маме. Скажу: «Гэта табе сабраў!» Вось узрадуецца.

Патапка зрабіў кулёчак і насыпаў у яго маліны. Радасны, ён панёс ягады дамоў. Маці якраз цыравала Патапкавы шкарпэткі, а дзядуля Патап Іванавіч чытаў «Лясную газету».

Мядзведзік працягнуў маці кулёчак і нечакана сказаў:

— Віншую цябе, мамачка, з Днём нараджэння!

Сказаў і засаромеўся, бо ведаў, што маці, як і ён, Патапка, нарадзілася не ў ліпені, а зімою. Але старэйшыя быццам нічога не заўважылі. Мама падзякавала Патапку за падарунак, а дзядуля, адклаўшы ўбок газету, прагаварыў:

— Мы не ведалі, чым сёння чай заварыць. Дык будзем піць малінавы!

Патап Іванавіч пайшоў ставіць самавар.

Потым усе сядзелі за сталом, елі бліны з мёдам і запівалі малінавым чаем. Чай быў смачны. Але Патапка сядзеў як на іголках: круціўся за сталом, безупынку дзьмухаў на вар. Урэшце не выцерпеў:

— Прабач, мамачка, што я цябе сягоння павіншаваў з Днём нараджэння. Неяк само сабою выйшла!

— А ў мяне сёння такі ж радасны дзень, як і Дзень нараджэння, — адказала маці. — Мой сын становіцца дарослым. Ён не абарваў раней часу ягады, а чакаў, пакуль яны даспеюць. Ён сам паеў і пра мяне не забыў. Ён не баіцца прызнацца, калі сказаў няпраўду…

Ад гэтых матуліных слоў мядзведзіку стала радасна-радасна, а Патап Іванавіч прапанаваў:

— А чаму б табе, Патапка, не паклікаць у госці сваіх сяброў. Чай будзе з маліны, мама напячэ рознай здобы, і мы пазнаёмімся з імі…

— А зайчыку Цімошку будзе капуста? — пацікавіўся Патапка.

— Будзе Цімошку капуста, а вожыку Калючку — яблыкі, — паабяцаў дзядуля.

— Добра, дзеду, пазаву…

Заўтра да Патапкі прыйшлі сябры. Стала адразу весела. Пілі, елі, аж успацелі.

Патап Іванавіч з радасцю думаў: «Як добра, што ў нашага Патапкі столькі дружбакоў! Як добра, што ён умее сябраваць!..».

— Ох, мусіць аб'еўся, — уздыхаў Цімошка.

— Усё было так смачна! — стракатала сарока. — Дзякуй вам, гаспадары!

— Дзякуй табе, Патапка, за салодкія яблыкі! — сказаў Калючка.

А ўсе разам звераняты заспявалі:

Там ласунак, тут ласунак —
Не саромейся, бяры!..
За салодкі пачастунак
Дзякуй вам, гаспадары!



## ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**БЕНЗЯРУК** Расціслаў Мацвеевіч

# ПАТАПКА І ЯГО СЯБРЫ

Казкі

Літаратурны рэдактар *Г.М. Малей*
Рэдактар *І.М. Дарошка*
Мастацкі рэдактар *М.Э. Малярэвіч*
Камп'ютарная вёрстка *М.Э. Малярэвіч*

Падпісана да друку 11.01.2013. Фармат 60×90 ⅛.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 9,0. Ул.-выд. арк. 3,6.
Тыраж 2000 экз. Заказ 130168.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494061 ад 03.02.2009.
Зав. Калініна, 16, 220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ТАА "ТМ АРГО-ГРАФИКС". РБ, г. Мінск, вул. Мележа 1, оф. 221.
Тэл.: (017) 262 71 91. Ліц.№ 02330/110 от 03.04.09г.